№1 (6) 1997

# LITVA
## LITHVANIAE

*З гэтага нумару мы зачынаем новую рубрыку "ПАРТЫІ" ў якой плянуем знаёміць чытачоў з малавядомымі старонкамі палітычнага жыцьця нашае краіны пачатку XX ст. І першай партыяй, якую мы прэзэнтуем вашай ўвазе, будзе* ***Канстытуцыйна Каталіцкая Партыя****. На чале гэтае арганізацыі быў арцыбіскуп Віленскі Эдвард Ропп, пра якога, сёньня, таксама, мала хто ведае, як і пра астатніх дзеячоў партыі.*

**П А Р Т Ы І**

На пачатку, паслухаем, што гаворыць пра Э. Роппа ксядз Адам Станкевіч у сваёй кнізе "Родная мова ў сьвятынях", якая выйшла ў 1929 року ў Вільні (стар 94, 2-гі верх. абз.):

"...Як біскуп Ст. Данішэвіч, пасьля часовай вольнасьці ў Расеі па 1905 року, скарыстаў зь яе і справу нашай мовы ў касьцёле значна пхнуў наперад, біскуп Эдвард Ропп пасьля рэвалюцыі 1917 року, карыстаючыся з вольнасьці, справу гэту яшчэ

*працяг на 2-ой старонцы*

**П А Р А Л Е Л І**

## ЭЙРЭ-ІРЛЯНДЫЯ

"А вы любіце бульбу?" - заўсёды пытаюцца ірляндцы, запрашаючы вас за стол. Тлумачэньні пра літоўскую кухню й распаўсюджаную мянушку выклікаюць дабрадушны сьмех і сымпатыю. Гэта толькі першы дотык да падабенстваў у жыцьці й характары нашых народаў. Перад кожным ірляндзкім домам, паўсюль на вуліцах, нават на ліхтарных слупох - кветкі. Людзі ўраўнаважаныя, салідарныя, працавітыя. Зяленыя пагоркі са статкамі авечак, дагледжаныя помнікі мінуўшчыны, штодзённы дабрабыт, - здаецца, нішто не нагадвае пра цану, якую нацыі давялося заплаціць за незалежнасьць. А змаганьне ірляндцаў можна параўнаць хіба з 800-рочнай Рэканкістай гішпанскіх каралеўстваў супраць маўраў. Юлій Цэзар скарыў суседнюю Брытанію, але заваёўнікі да 8 ст. н.э. так і ня ступілі на выспу Гібернію. У старажытнасьці Ірляндыя мела яшчэ таксама гіншую назву - Скотыя. Пазьней так стала называцца Шатляндыя (Scotland). Вось вам варыяцыі на тэму Русі-Літвы. Дасьледчыкі сьцвярджаюць, што кельцкія плямёны іраў (эйраў) засялілі выспу не раней за І ст. да н. э.

Кельціберы, галы, галаты, брыты...,- кельцкая стыхія апаноўвала Эўропу ад Паноніі да Атлянтыкі. У 432 р. Сьв. Патрык пачаў хрысьціянізацыю эйраў. На высьпе паўсталі кляштары са знакамітымі школамі й цэнтрамі ілюмінаванай рукапіснай кнігі. Узьняліся манумэнтальныя каменныя крыжы (у розных кутках краіны яшчэ цяпер йіх засталося больш як 400). Стылізаваныя фігурныя сцэны зь біблейскімі сюжэтамі злучаюцца на гэтых помніках зь кельцкім арнамэнтам. Бясконцая, дынамічная вязь ліній і сьпіраляў ахутвае выяўленчую прастору, заварожвае вока чароўнай сілай абстракцыі. Ірляндзкае мастацтва й архітэктура VI-X ст. - арыгінальнейшая зьява, адна з дасканалых праяваў чалавечага генія.

Гэты пэрыяд супадае з часамі экспансіі вікінгаў. З VIII па X ст. акупанты рабуюць і нішчаць краіну. Але так і не могуць захапіць яе цалкам, хаваючыся пасьля наездаў за мурамі фартэцыяў. Бітва пры Клантарфе - гэта Ворша эйраў. Тут у 1014 р. ардры (вярхоўны кароль) Брайен Бору разьбіў дацка-нарвэзкіх рыцараў і надоўга адпудзіў заморскіх гасьцёў. Каштоўнейшая сьвятыня Ірляндыі - Крыж з абацтва Конг. Ён быў створаны каля 1123 р. майстрам Маэлісу па замове ардры Турлога О'Конара. Сутрэўшы гэты шэдэўр на экспазыцыі Нацыянальнага музэя ў Дубліне, безумоўна, прыгадваеш Крыж Сьв. Ефрасіньні.

Кожны народ мае таксама свайго Юду. Адзін з пакрыўджанных магнатаў у 1169 р. прывёў за сабой нарманаў, якія ўжо даўно валодалі Брытаніяй. Пачалася шматвяковая ірляндзка-брытанская трагедыя, хвалюючыя акты якой назірае й нашае пакаленьне (!). Дзесяцігодзьдзі спатрэбіліся агрэсарам, каб захапіць выспу. А калі згадваць толькі найбольш буйныя паўстаньні, то эйрам ёсьць чым ганарыцца - 1515, 1534, 1562, 1598, 1641, 1798, 1803, 1867, 1916... На пачатку XVI ст. народ ня прымае Рэфармацыю, абвешчаную Генрыхам VIII Ангельскім, і знаходзіць сабе хаўрусьнікаў сярод ангельцаў-каталікоў. Але за тое з часам пратэстанцкая частка нацыі пачынае падтрымліваць вунію зь Велікабрытаніяй. Толькі пратэстанты могуць займаць дзяржаўныя пасады, служыць у войску, да 1714 р. у йіхных руках ужо 93% зямлі. Пад уціскам каталіцкая царква, ірляндзкая (гэльская) мова, музыка, усё спрадвечна ірляндзкае. Вялікі голад 1845-49 р., выкліканы хваробай бульбы й злачыннай адмовай дапамогі з боку уладаў Ландану, прывёў да сьмерці 800 тысячаў і эміграцыі 2 мільёнаў чалавек. Адказ быў чыста ірляндзкі - партызанскія дзеяньні падпольнай арганізацыі Фэйнаў, тэрарыстычныя акты, вызваленьне сяброў з турмаў. Толькі пасьля Першай Сусьветнай вайны, пасьля паўстаньня й грамадзянскае вайны 1919 - 1923 р. была створана

*працяг на 2-ой старонцы*

### • ГЕАГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

*Краіна знаходзіцца ў Атлянтычным акіяне на захад ад Велікабрытаніі на высьпе Ірляндыя й акаляючых выспачках (адзьдзяляецца пратокамі Паўночнай і Сьвятога Георга), мае 26 графстваў і 5 местаў-графстваў. Паўночная частка (Ольстар), у якую уваходзяць 6 графстваў, на сёньня, знаходзіцца пад кіраўніцтвам ангельскіх уладаў. Абшар 70 тыс.км². Сталіца Дублін. Сьцяг мае выгляд простакутніка, разьмешчанага па гарызанталі, з прапорцыямі 1x2, які зьлева направа падзелены на тры роўныя сэктары - зялёнага, белага й памаранчавага колераў.*

*Гэты кляштар падобны на мёртвае места. Там узьнімаюцца рэшткі дзьвюх малых цэркваў, зруйнаваная Круглая Вежа (Round Tower) і тры скульптурныя (барэльефныя) крыжы, пастаўленыя пасярод надмагільных камянёў. Жытло часта будавалася з дрэва, а цэрквы й звіньніца, якая была таксама назіральнай вежай і месцам на паратунак - з каменю. Масыўны крыж Муйрэдак (Muiredach) - прыгажэйшы з трох крыжоў і, магчыма, найдасканалы з усіх ірляндзкіх крыжоў са скульптурнымі выявамі.*



*паводле: John Hinde Limited. Cabinteely, Dublin 18, Ireland*

***Кельцкі крыж (Celtic Cross) і Круглая Вежа (Round Tower) у Манастэрбойс (Monasterboice)***

## Д З І К У Н С Т В А



*фота LISa*

***ХРОНІКА КАЛЬВІНСКАГА ЗБОРУ:***

***1557 рок** - збудаваны, як Рэфармацкі Збор*
***1628 рок** - Збор прыстасаваны пад касьцёл Архіанёла Міхала*
***1676 рок** - пры Зборы заснаваны Дамініканскі Кляштар*
***1840 рок** - Збор аддадзены праваслаўнае царкве й пераназваны ў Спасо-Преображенскую церковь*
***1968-1972 р.р.** - рэстаўрацыя*
***1978 рок** - у Зборы месьціцца Музэй Рамёстваў і Народных Промыслаў*
***пач 90-ых** - Збор перададзены Расейскай Праваслаўнай Царкве*

Усім, мабыць, ўжо вядома, што згарэў адзін з адметных помнікаў архітэктуры нашае краіны - Заслаўскі Рэфармацкі Збор. Дарэчы, ў апошнім 5-ым нумары "ЛІТВЫ" пра гэты Збор выйшаў даволі падрабязны артыкул, дзе й паказана ягоная веліч і каштоўнасьць. Але ад лёсу не зьбяжыш... Храму няма. Варта згадаць цікавы момант, які здарыўся пры падрыхтоўцы матар'ялу пра Заслаўскі Збор у апошні нумар "ЛІТВЫ". Адзін з маіх знаёмых убачыўшы выяву Збору ў макеце выданьня, сказаў, што чаму вы даецця такі велізарны фатаздымак храма, маўляў, ўсе яго бачылі й пабачаць яшчэ колькі разоў... Але, чамусьці лёс склаўся якраз наадварот. Больш ужо ніхто няўбачыць ранейшы Заслаўскі Збор. Так, яго, напэўна, адрамантуюць, пабеляць, адновяць сталяваньне, пасьцеляць новую дахоўка (а можа й бляху...). Але гэта ўжо будзе ня той Збор.

Цяжка зараз сказаць хто ўчыніў ▶



*фота LISa*

▶ такое дзікунства, гісторыя пакажа. Мы не бярэмся таксама кагосьці вінаваціць, бо судзіць справа Божая.

Але, варта, яшчэ раз, узгадаць словы з тэстаманту заснавальніка Храму Яна Глябовіча: "... калі-б хто з нашчадкаў маіх, забыўшыся страху Божага й гэтае веры праўдзівае, раз спазнаў, у якой з дапамогаю Бога праз мяне выхаваныя былі, захацеўбы гэты Збор Эвангелічны Заслаўскі... да веры й вызнаньня папезкага, новахрышчэнскага, або якога йнакшага навярнуць, адступіўшы да якое сэкты, або царквы аблудлай, інакшай ад нашае канфэсыі Эвангелічнае Рэфармацкае, для каторай я гэты Збор фундаваў, тады гэты нашчадак губляе валоданьне й права пераемнасьці на гэты Збор і фундыцыю ягоную..."

***Гэтыя фотаздымкі былі зроблены на другі дзень пасьля спаленьня Збору. Драўляная частка іканаставу, дарэчы, нейкім дзівам захавалася (абразоў не было). Паўз сьцены былі складзеныя абпаленыя рэлігійныя кнігі. Стоячы у вежы было бачна нізкае шэрае васеньняе неба, ахутанае чорным квадратам закопчаных вежавых сьценаў. Згарэлі ўсе ярусы дашчэнту. На двары, трохі далей ад увходу, каля вядомага каменя, ляжаў пагнуты абгарэлы крыж. 'Ля самага ўваходу ў Храм на падлозе вежы, сярод абсыпаўшагася тынкаваньня, ляжаў звон і пазіраў на ўваходзячых. Ён не разьбіўся падаўшы з добрай вышыні. Пэўны час звон ня будзе склікаць на імшу вернікаў, але ёсьць прыкмета: калі звон не разьбіўся ў пажар, значыць, Храм будзе жыць. Паверым і мы ў гэтую добрую прыкмету...***



*фота LISa*

## П А Р А Л Е Л І

*праця г, пачатак на 1-ай стар.*

Рэч Паспалітая Ірляндыя. У шасьці графствах Ольстэра на поўначы, дзе правіць брытанская адміністрацыя, змаганьне за незалежнасьць працягваецца.

Гэльскую мову, якая застаецца адзінай дзяржаўнай з усяе кельцкае сям'і, вывучаюць усе шкаляры, ведаюць дарослыя. У публічных месцах можна ўбачыць аб'явы пагэльску. Але жывая мова гучыць толькі ў двух невялікіх арэалах на поўдні краіны, куды многія семьі накіроўваюць сваіх дзяцей на 1-2 месяцы ў летнікі, дзе не пачуеш ніводнага ангельскага слова. Хочацца верыць, што з гэтай крыніцы адродзіцца магутная плынь.

Дублін - Менск

***ВАЛЕРЫ БУЙВАЛ***

## П А Р Т Ы І

*працяг, пачатак на 1-ай стар.*

больш паглыбіў, выясьніў, пашырыў і даючы ёй, як бачым ніжэй, праўныя й практычныя падставы, стварыў як-бы новую эпоху ў справе ўжываньня літоўскае мовы ў касьцёле.

Вось-жа асоба гэтага пастыра заслугоўвае, каб надёй затрымацца даўжэй.

Нарадзіўся біскуп Эдвард Ропп ў 1858 року ў двары Ліксна, на Вітабшчыне. Скончыў права ў Санкт-Пэтэрсбургскім Унівэрсытэце, паступіў на дзяржаўную расейскую службу, але, чуючы ў сабе покліч да духоўнага стану, паступіў у Ковенскую Сэмінарыю, скончыўшы якую, давяршыў сваёй і так высокай адукацыі ў Інсбруку й Фрыбургу, за мяжою, на тэалягічных факультэтах. Пасьвечаны на ксядза ў 1886, а на біскупа 2.VI.1902 р., біскуп Ропп рок кіраваў дыяцэзіяй Саратаўскай, а ў року наступным, 1903, быў прызначаны на чало дыяцэзыі Віленскай.

Ужо ў Вільні біскуп Эдвард Ропп паказаў сябе з найлепшага боку ён шчыра лагодзіў польска-літоўскую нацыянальную барацьбу, стараючыся быць справядлівым, а таксама, падчас рэвалюцыі 1905 року, ён павагай сваёй супакоіў народ і не дапусьціў да жыдоўскага пагрому, які быў арганізаваны жандарскім палкоўнікам..."

А цяпер працытуем газэту "Наша Ніва" за 6.01.1907 №1 стар.6 разьдзел "Аб усём па троху":

"...Толькі мала ксяндзоў не хацелі падаваць галасы на выбарах ва ўездах за багачоў. Блізка ўсе ксяндзы й біскуп барон Ропп сталі на старану багачоў-памешчыкаў і ў Думе баранілі толькі іх інтэрэсы." Што "Наша Ніва" разумела пад "інтэрэсамі" памешчыкаў-багачоў не тлумачыцца, але водгук пра Э. Роппа натуральна нядобры.

Ізноў вернемся да кс.Ад. Станкевіча:

"...Ужо ў той час, калі справа літоўскай мовы ў жыцці рэлігійным, такім, ці йіншым чынам успльівала на верх, біскуп Ропп, ня гледзячы на цяжкія палітычныя абставіны, умеў знайсьці выйсьце й быць справядлівым.

Стараючыся ўвесьці расейскую мову ў Касьцёл, расейскі ўрад імкнуўся адначасна ўвесьці гэтую-ж мову і ў навучаньне каталіцкай рэлігіі ў школе.

Біскуп Эдвард Ропп гэтым палі-

*працяг на 3-яй староне*

**ПЕРАДРУКІ**

*Гэты атыкул быў дасланы нашым чытачом Сяргеем Яршом з прапановай скарыстаць у выданьні, мы палічылі прапанову слушнай, бо матар'ял сапраўды варты, каб яго прачытала як мага болей людзей.*

# І ПАНЫ ГАВАРЫЛІ НАШАЮ МОВАЮ

Я радзіўся, хрысьціўся, рос і вучыўся ў Наваградку. Пад час вучобы я наткнуўся на некалькі эпізодаў, якія прымусілі мяне прызадумацца й пагадзіцца з тым, што з паходжаньня "ліцьвін".

Над ракой Валаўкай, датокам Нёману, уздоўж гасьцінцу з Наваградка на Любчу да Валожына разьмешчаны прыгожы пасёлак Гарадэчна, які цяпер амаль злучыўся з Наваградкам. Тыя, хто з-за Неману ехалі ў акруговы суд у Наваградак, пераважна затрымоўваліся ў Гарадэчна начаваць. Нашы людзі называлі іх "ганакамі", бо замест "гэты" яны гаварылі "гэны". Часта ад гэтых людзей я чуў незнаёмыя словы, як: "Вось кадзе ўстаў і ледзь знайшоў свае нагавіцы" (нагавіцы замест порткі). Ваколіца вакол Наваградка належыла ў мінулыя стагодзьдзі магнатам Хрэбтовічам, Керсноўскім і Шпілеўскім. Аб Керсноўскім узгадваў Адам Міцкевіч у паэме "Пан Тадэвуш". Таксама ўзгадваецца паэтам і пан Хрэбтовіч, маёмасьці якога зь сядзібаю ў Шчорсах былі разьмешчаны ў нізіне над Нёманам. Цікава тое, што пасьля вайны маёмасьці Хрэбтовічаў польскі ўрад раздаваў польскім асаднікам, бо Хрэбтовічы былі праваслаўнымі й эміґравалі ў Францыю. Керсноўскія былі апалячаныя ліцьвіны, і польскі ўрад дазволіў йім распрадаць сваю маёмасьць. У Гарадэчні застаўся невялікі маёнтак, уласьніцай якога была Яніна Шпілеўская. Старыя людзі казалі, што род Шпілеўскіх вельмі старадаўні. Адзін са Шпілеўскіх - Міхал быў у 1700 року намінованы кашталянам у Мсьціслаў, але не даехаў туды, застаўся ў Гарадэчне. У маёнтку Шпілеўскіх, здаецца, пабываў А. Міцкевіч, калі ён вучыўся й жыў у Наваградку. А. Міцкевіч у паэме "Пан Тадэвуш" прыгадвае дом на горцы на другі бок рэчкі Валаўкі й лес за дваром. Усё гэта нагадвае мне тыя мясьціны, дзе я правёў свае маленства.

Бліжэй пад Наваградак месьціўся фальварак Гарадзілаўка, уласьніцай якога была Ванда Керсноўская, нашчадка старога роду. Яна выйшла замуж за Бэкэра, які з паходжаньня быў немец і прыйшоў да яе ў прымакі. Пані Ванда не захоўвалася як "памешчыца", апраналася заўсёды сьціпла й была актыўнай у грамадзкім жыцьці. Кожны тыдзень, часамі пехатою, прыходзіла яна ў Гарадэчню, у школу. Адлегласьць, уважым, ад яе фальварку да школы была 2 км. Яна дзяцей каталікаў вучыла рэлігіі. Мы, праваслаўныя дзеці, маглі ў гэты час выходзіць зь клясы й гуляць на дворы, або ісьці дамоў. Можна было заставацца й у клясе, толькі трэба было сядзець ціха на задняй лаўцы, слухаючы, што яна расказвае сваім вучням. Я часамі заставаўся на ейных лекцыях. Аднаго разу яна папытала сваіх вучняў аб тым, што расказвала папярэднім разам, і ніхто ня здолеў ёй адказаць. Я падняў руку й яна дазволіла мне адказаць на яе пытаньне. Паўтарыў я яе лекцыю дакладна, і гэта спрычынілася да таго, што пані Ванда зацікавілася мной. А калі я скончыў 5 клясаў гарадэчанскай пачатковай школы і захацеў вучыцца далей, пані Ванда сама завяла мяне ў сямігодку паўшэхнае школы імя Г. Пірамовіча ў Наваградку й запісала ў пятую клясу.

Школа імя Г. Пірамовіча была на высокім узроўні й давала добрую адукацыю. Так як мне было 11 год і зімою я ня змог-бы хадзіць 4 км. у школу, якая была ў цэнтры Наваградка, бацькі з дапамогай пані Ванды закватэравалі мяне ў старэнькага пана Рычарда Керсноўскага. У вельмі кароткім часе ён мяне спадабаў, бо я старанна выконваў усе ягоныя даручэньні. Ён прывучыў мяне даваць яму "застрыкі" пад скуру нейкіх лекаў. Часта прыходзіла адведаць мяне маці, прыносячы мне розныя ласункі. Мы паміж сабой гаварылі пасвойму прыцішаным голасам. Аднаго разу, калі маці пайшла дамоў, заклікаў мяне ў свой салён пан Керсноўскі й кажа: "Я чуў, як вы размаўляеце на сваёй мове й мне сорамна, што не магу размаўляць на ёй. У мінулым мае продкі былі вялікімі панамі, літоўскімі магнатамі. Ян Керсноўскі ў 1670 року быў

*працяг на 4-ай старонцы*

## Праграма Партыі Канстытуцыйна-Каталіцкай на Літву й Беларусь

Засталіся мы раптам у агульнай бязьдзейнасьці палітычнай, закліканыя да парлямантарнага жыцьця, на ўсім абшары Гаспадарства Расейскага, ў адносінах да якога мы ёсьць толькі часткай параўнальна невялікай. Маем аднак абсалютна гіншае мінулае, йіншы лад нутраны, йіншыя ёсьць у нас народы ды гіншая, у значнае большасьці, рэлігія. Усе тыя адрозьненьні нашыя былі праз доўгія вякі непрызнаваныя й перасьледаваныя. Здавалася-б, што ў выніку гэтага паміж намі павінна была завязацца еднасьць, надыйсьці сардэчнае зьбліжэньне й што мы павінныя былі ўзаемна падтрымліваць адзін аднаго бяз розьніцы становішча й прыналежнасьці да народу, каб у новым жыцьці, якое для нас адчыняецца, ствараць адналітную сілу, зь якой нават абшар Гаспадарства мусіў-бы лічыцца. Нажаль! Даўгі сон, нястача ўзаемнае лучнасьці, а ў апошнім часе сілы варожыя нам усім, замест таго, каб стварыць сярод нас еднасьць, стварылі - а зараз кгвалтам разьдзьмухаюць - рознасьць становішчаў, прыналежнасьці да народу, паглядаў палітычных, праз што сілы нашыя, ня вельмі моцныя самі праз тое яшчэ больш разьбіваюцца. У выніку гэтага пагражае небясьпека. Што да выбараў і да працы, замест таго, каб ствараць адную магутную партыю, якая магла-б выйграць, што нам на разьвіцьцё й дабрабыт наш патрэбна, сталіся падзеленыя на розныя адломы, а што за тым ідзе, бяз аніякай сілы перад абшарам Расеі, без'абаронныя аддадзены на рэглямэнтацыю (кіраваньне) чужынцам, якая [рэглямэнтацыя] не стасуецца з нашымі патрэбамі.

Каб надалей гэтага пазьбегнуць, натуральна, мусім згуртавацца й вынайсьці супольны грунт на якім, як найбольшая частка народу, так і асобны чалавек, край наш засяляючыя, маглі-б паразумецца, абы ў еднасьці




*апрацаваная ксэракопія з арыгіналу*

***Вокладка Праграмы Партыі Канстытуцыйна-Каталіцкай***

й міласьці - адныя другіх ня крыўдзячы, але падтрымліваючы - разам абараняцца, працаваць і здабыць сабе трывалы падмурак да справядлівага, разумнага, матар'ялнага й нацыянальнага разьвіцьця.

Амаль усе палякі ды ліцьвіны й вялікая частка беларусінаў, край наш засяляючыя -

**ПАРТЫІ**

*працяг, пачатак на 1,2-ой стар.*

тычным расейскім імкненьням даў рашучы адпор, як на той час і тыя варункі, даволі справядліва абходзячыся і з навучаньнем рэлігіі ў нашай мове..."

Але такая пазыцыя Роппа, чамусьці, не падабалася "Галоўнаму Мужыцкаму Камітэту Віленскай губерні дзеля выбараў у Думу". Вось што пра гэта піша "НАША НІВА" за 13.01.1907 №2 стар.7 разьдз. "З Віленшчыны":

... Паявіліся праклямацыі "Галоўнага Мужыцкага Камітэту Віленскай губерні дзеля выбараў у Думу". У ёй пішацца, як кажа "Kurier Litewski", каб мужыкі на выбарых не выбіралі памешчыкаў, каторыя ў Першай Думе злучыліся з віленскім біскупам баронам Роппам і некаторымі ксяндзамі проціў мужыкоў; што трэба мужыцкім выбаршчыкам злучацца з гарацкімі."

Камэнтар, як гавораць, не патрэбны. Але працягнем словы ксядза Адама Станкевіча:

"...Паслухайма, што аб гэтым гаворыць "ГОМАН" (1917 р. №101) у артыкуле "Віленская дыецэзыя і выклад рэлігіі ў школах пабеларуску": ...Першая расейская рэвалюцыя - кажа аўтар гэтага артыкулу, - знайшла на пасадзе Віленскага біскупа Ксяндза біскупа Эдварда барона Роппа, каторы праз увесь час свайго кіраваньня дыецэзыяй, цьвёрда стаяў на краёвым становішчы, не зьвяртаючы ўвагі на незадавольства тых ці йіншых колаў. Ксёндз біскуп Ропп ня раз выказваў сваю прыхільнасьць да Ліцьвінаў і не вагаўся называць фанатыкамі тых, што не

*працяг на 4-ай старонцы*

## ПЕРАДРУКІ

*працяг, пачатак на 3-ай стар.*

нават ваяводай наваградзкім. І размаўлялі продкі мае палітоўску, так як ты з маткай размаўляеш. Аб гэтым я чуў ад прадзеда, калі быў падлеткам. Жаліўся той, што пачалі паны літоўскія размаўляць папольску, цураюцца сваёй літоўскай мовы, але ты, сынок, не саромься літоўскай мовы й памятай, што Навагрудак быў першай гсталіцай Вялікага Княства Літоўскага". Ён заплакаў, гаворачы: "Мы былі й ёсьць ліцьвіны, мы мелі магутную дзяржаву й страцілі яе, бо мы, літоўскія паны, гэтай мовы забыліся". Ён устаў, падышоў да куфра, адчыніў і выняў гафраваны сьцяг з рыцарам на кані. Ён сказаў: "Гэта наш літоўскі герб-Пагоня, а гэты малы ў куце - наш радавы герб".

Гэта быў невялікі шчыт, у ягоным чырвоным полі стаяў, зьвернуты ў левы бок, белы баран. Пан Рычард пацалаваў сьцяг і сказаў: "Пад гэтым сьцягам калісьці продкі мае ваявалі, а сёньня ён ляжыць у куфры". Я стаяў і слухаў яго, як зачараваны. Я толькі часткова зразумеў яго, але некаторыя словы яго запамятаў на ўсё жыцьцё, менавіта тое, што я не паляк, а ліцьвін, літоўскія паны, магнаты, гаварылі гэтак, як мы гаворым у Гарадэчне. Я расказаў аб гэтым свайму старэйшаму брату Ўладку, які закончыў гарадзкую вучэльню. Той любіў чытаць і меў шмат кнігаў. Брат выслухаў



*паводле: "ПОЛАЦАК" №4 (14)*

*Герб Керсноўскіх*

ўважліва мяне й сказаў: "Так, мы ліцьвіны. Раней тут была Літва й Наваградак быў сталіцай. Але нам у школе гэта не гавораць, ня вучаць нашай гісторыі, нам у школе кажуць, што мы палякі, што была тут Польска".

У 1943 року, калі арганізавалася "Беларуская Самаахова" у Навагрудку, я спадкаўся з нашчадкам навагрудзкіх магнатаў - Мішкам Хрэбтовічам. У размове ён мне сказаў: "Продкі мае называлі сябе ліцьвінамі, а мы сябе сёньня называем беларусамі й гэтым адарваліся ад мінуўшчыны, ад гістарычнай спадчыны". Ён быў вялікі энтузіяст нацыянальнае партызанкі. Ён і мяне хацеў завэрбаваць, але паколькі я згоды не даў, наша знаёмства абарвалася.

Калі я ў 1940-1941 ракох вучыўся ў Львіўскім унівэрсытэце, пасябраваў з украінскім студэнтам Владымірам Гаўрылюком. Той часта вадзіў на сяло да свайго заможнага "стрыйка". І вось, калі першы раз ён прадставіў мяне свайму дзядзьку: "Цэ мой добры прыятэль білорус", той запытаўся: "А з відкіля Вы ?" Пачуўшы, што я з Навагрудка адразу заявіў: "Які цэ білорус, та цэ-ж Вы лытвін".

У 1945 р. я паступіў ва ўнівэрсытэт у Марбургу. У вольныя гадзіны любіў у гістарычным адзьдзеле бібліятэкі шукаць старыя кніжкі. Аднойчы заўважыў на хрыбце адной надпіс "Уладыслаў Ягайла". Я разгарнуў кнігу й пабачыў партрэт князя Ягайлы. Тады я стаў перагортваць яе, затрымоўваючыся на ілюстрацыях. Хутка знайшоў невялікі малюнак, на якім кароль стаяў на каленях у сваёй капліцы. На сьценах капліцы былі праваслаўныя іконы, а пад малюнкам панямецку напісана: "Кароль быў набожным, кожны вечар маліўся ў сваёй капліцы ў Кракаве на сваёй роднай мове ("муттэ прахэ"). На наступнай старонцы нямецкі гісторык лацінскімі літарамі падаў зьмест малітвы Ягайлы: "Божа міласьцівы, пайшлі здаровечка маёй княгіне Ядзьвісе". Гэтыя словы ўрэзаліся мне ў памяць, але ўся малітва была даўжэйшая й я не запамятаваў яе. Зараз шкадую, што тады не перапісаў нават аўтара й назову кнігі. Гэта была вельмі

*працяг на 6-ай старонцы*

## ПАРТЫІ

*працяг, пачатак на 1,3-яй стар.*

хацелі прызнаць прыроджаных правоў літоўскай мовы. Пасылаючы прадстаўнікоў духавенства ў камісыі аб мове пры генэрал-губернатары А. А. Фрэзэ, Кс. біскуп у мандаце адзначыў гэтаксама рэлігійныя патрэбы літоўскага народу. За часоў біскупа Роппа меў быць надрукаваны зь ягонай апрабатай катэхізм палітоўску, але варункі не далі яму зьдзейсьніць гэтае думкі... У тымжа 1905 року 22 жніўня Кс. біскуп Ропп выдаў за №4339 цыркуляр, у якім гаворыцца: ..."для дзяцей, якія ўжываюць літоўскую мову ў пачатковых школах, допускацца ў меру патрэбы тлумачэньне прадмету палітоўску." Каб ацаніць, як трэба, вагу гэтага кроку, мы павінны ўзгадаць, што тады ў нас толькі пачалі выяўляцца праблескі адраджэньня літоўскага народу."

Але такое трывалае за праўду і справядлівасьць становішча біскупа Роппа сталася дужа нялюбым для расейскага ўраду, які ў 1907 року й пазбавіў яго Віленскай біскупскай катадры *(яму было загадана выехаць зь Вільні і забаронена жыць у сталічных местах Літвы й Беларусі - дадатак аўтара)*

Нялюбым Эдв. Ропп стаўся чамусьці й для "першай беларускай газэты з рысункамі". Вось якое чарговае паведамленьне дае "НАША НІВА" за 2.02.1907 р. №5 стар.4 разьдз. "З Віленшчыны":

"У Віленскім павеце выбралі такіх людзей, што не прададуцца памешчыкам і не здрадзяць сваіх братоў-мужыкоў. Біскупа барона Роппа пастанавілі не выбіраць: "Біскуп, -

*працяг на 5-ай старонцы*

ёсьць каталікамі. Тая-ж вера побач з супольным дзейным мінулым ёсьць наймацнейшай і эфектыўнейшай лучнасьцяй нашай. Бо калі паглядзім у недалёкае мінулае, тады ня можам не заўважыць, што, уласна, тая ўлюбёная аграмаднай большасьцяй наша вера каталіцкая была агульнай прычынай уціску й пераследаваньня. Адбіраліся ў нас касьцёлы нашыя, замыкаліся кляштары, ліквідоўваліся ордэны, прыціскалася духавенства, не давана каталіцкае асьветы ды школы,- і нават моўнае перасьледваньне слабла, калі не было разам зь перасьледваньнем веры - як даводзіць адзін факт, што лютэранам і кальвінам дазволена вучыцца пажамойцку й палатыску, габрэям пагабрэйску, а толькі каталікам адмоўлена ва ўсім. А такім чынам і на будучыню ўплывае канчатковасьць злучэньня на грунце тае перасьледаванае да гэтага часу рэлігіі, якую абаранялі мы разам праз доўгія вякі.

Новыя, ад уводу ў дзеяньне Маніфэсту 17 кастрычніка, дадзеныя нам правы наклалі на ўсю супольнасьць нашу абавязкі. Мы-Каталікі можам йіх акрэсьліць на грунце хрысьціянскім як абавязак узаемнае міласьці й ува́жаньня правоў усіх групаў грамадзкіх праз высьвятленьне патрэбаў, датычачых агульнасьці нашае, і як абавязак - абароны тых правоў і патрэбаў - шляхам дадзеным нам праз новыя правы, а значыць, перад'усім, праз разумнае ўжываньне права выбару выбаршчыкаў - кандыдатаў і дэпутатаў да будучай Дзяржаўнае Думы

Калі ўнікнем у нашыя стасункі ў сьвятле узаемнае міласьці й ува́жаньня правоў асобных групаў насельніцтва, тады пераканаемся, што на грунце каталіцкім нятолькі можам дамагацца выпраўленьня крыўдаў, атрыманых з-за касьцёла й школы, але можам усе патрэбы нашыя акрэсьліць і таксама шукаць йіхнага задавальненьня. Можам без праблемаў злучыць усялякіх людзей рознага сацыяльнага становішча й нацыянальнасьці да супольных дзеяньняў і барацьбы,- можам нават знайсьці - бо на грунце праўды й справядлівасьці стаім - хаўрусьнікаў сярод разумных людзей, хай на'т чужых нам з погляду нацыянальнага й веравызнальнага, і такім способам стварыць сілу, якая будзе мець моцную вагу на лёсы й далейшы кірунак нутраного разьвіцьця гаспадарства. Люд наш, які будзе ахвотна выбіраць на дэпутатаў добрых каталікоў, павінен ведаць, што знойдзе ў йіх асобе адпаведных і сапраўды добрых прадстаўнікоў, гатовых да абароны ўсялякіх правоў і патрэбаў ягоных каталіцкія прадстаўнікі не тэарэтычна, а практычна павінны стасаваць вымаганьні свае да сапраўдных і надзённых патрэбаў нашых краёвых - адначасна адносіцца справядліва да пытаньняў агульна-дзяржаўных, бо рысаю Партыі Каталіцкай мусібыць ужываньне без'умоўнае справядлівасьці па жаданьню ўсіх - незалежна ад нацыянальнасьці, веры й стану.

Кораценька трэба нам выказаць, чаго жадаем, чаго дамагацца й бараніць будзем у пытаньнях кіраваньня й стасункаў касьцёльных, у галіне школьніцтва, стасункаў сялянскіх, працы фабрыкаў і заводаў, і, зрэшты, ў пытаньнях уладкаваньняў агульна-гаспадарскіх, якія забязьпечваюць нашыя патрэбы.

Зачынаючы ад найбольш раздражнёных і гарачых на сёньня пытаньняў - сьведчым, што:

**1. У справах школьных**

Партыя Канстытуцыйна-Каталіцкая будзе дамагацца:

а) бязплатнае народнае школы ў мове роднае з абавязковай навукай рэлігіі, з улікам мовы дзяржаўнае, з настаўнікамі нашае нацыянальнасьці й веры, з разьдзелам школаў хрысьціянскіх ад нехрысьціянскіх і з годным становішчам у школе нашых капланаў*;

б) разбурэньня ўсялякіх перашкодаў пры закладаньні школаў праз асобы прыватныя, праз гміны, месты, таварыствы сьвецкія й рэлігійныя, з настаўнікамі ўласнымі, пакідаючы дзяржаве толькі права кантролю навуко-

**духоўны чалавек (сьвятар), які праводзіць заняткі рэлігіяй у школе ці ў войску*

**ПОМНІКІ**

# МЯДЗЕЛСКІ ЗАМАК

Чамусьці ў гістарычнай літаратуры, прысьвечанай помнікам абарончага дойлідства, - замкам, якія да нашых дзён вартуюць абшары літоўскай зямлі, даволі рэдка сустракаюцца згадкі пра старажытны Мядзел, хаця яго ўмацаваньні ні сілай сваёй, ні значнасьцю не саступалі іншым, больш славутым сёньня.

Карані гісторыі Мядзеля сягаюць у глыбокую старажытнасьць. Каля тысячы рокаў таму, у X ст., калі на месцы многіх сучасных сталіцаў шумеў векавечны бор, гэты гарадок быў ужо адным з памежных замкаў Полацкага княства. Пабудаваны на высьпе пасярод возера, ён меў даволі ўнушальныя, на той час, умацаваньні: насыпны вал, абкладзены камянямі-валунамі й магутныя драўляныя сьцены. Усё гэта, ды яшчэ бяздонная вазёрная глыбіня, рабілі Мядзелскі замак амаль непадступным для ворагаў. Годна ўзвышаўся ён над цёмнымі хвалямі, грозны й недасяжны, як увасабленьне той дзяржавы, межы якой вартаваў.

Ійшоў час. Паступова губляла сваю моц і уплывовасьць Полацкае княства; убіраўся ў сілу, захопліваючы ўсё новыя і новыя землі драпежны крыжацкі Ордэн; зь дзікіх азыяцкіх стэпаў вось-вось павінна была абрынуцца крывавая татарская навала. І ад Полацка да Турава, ад Берасьця да Смаленска зьвінела зброя ды палалі пажары дамовых войнаў...

У гэтых крывавых пакутах і нарадзілася на зямлі нашай дзяржава-волат - Вялікае Княства Літоўскае, імя якой прагрымела на ўсю Эўропу, межы якой дасягнулі Чорнага й Балтыйцкага мора, войска якой здабыла сабе няўміручую славу перамогамі пад Грунвальдам, Воршай, Сінімі Водамі, Кірхгольмам... Але ўсё гэта было потым, у часы магутнасьці й роськвіту, а спачатку былі бясконцыя войны, напады з усіх бакоў, асады й штурмы.

Да гэтага часу й адносіцца першая згадка пра Мядзел у пісьмовых крыніцах. Як сьведчаць дакуманты, у 1324 року крыжацкі адзьдзел спрабаваў авалодаць замкам, але яго непадступнасьць і мужнасьць абаронцаў перашкодзілі захопнікам. У лютай злосьці, крыжакі скарысталі сваю звычайную тактыку - "вайну" зь без'абаронным насельніцтвам навакольных вёсак, і, са словаў тагачаснай граматы, "многіх забілі, а іншых з сабой павялі". Як бачым, нялёгкія тады былі для ліцьвінаў часы, але яны не скарыліся, не схілілі галоў перад ворагамі. У час кароткіх перапынкаў паміж войнамі, нашы продкі, мацуючы абарону сваёй дзяржавы, працавалі не апускаючы рук. Па ўсёй Літве будаваліся вялікія мураваныя замкі. Паўсталі Вільня й Трокі, Наваградак і Ліда, Горадня й Крэва. Крыху пазьней дайшла чарга й да Мядзела. Тут у XV ст. ствараецца магутны замак, які адпавядаў усім патрабаваньням фартыфікацыі. Умацаваны таўшчэзнымі каменнымі сьценамі й 30-мэтровай вежай, ён стаў сур'ёзнай перашкодай на шляху захопнікаў, што ў хуткім часе зьявіліся пад ягонымі мурамі. У 1519 р. вялікі маскоўскі адзьдзел спрабаваў захапіць Мядзел, але, сутыкнуўшыся з моцнымі сьценамі й мужнасьцяй гарнізону, адступіў. Перад адыходам маскоўцы вынішчылі ўсё наваколле (як бачым нашыя браты-славяне мала чым адрозьніваліся ў сваіх дзеяньнях ад крыжакаў). Маскоўская навала зьявілася пад Мядзелам і ў час вайны 1654-1667 рокоў, але зноў - так і пайшла ні з чым.

Амаль 300 рокаў стаяў на шляху захопнікаў Мядзелскі замак. Стаяў ажно пакуль не зьявіўся вораг, націску якога ня вытрымалі нават муры дзьвух мэтровае таўшчыні.

Падчас Паўночнае вайны вялікі швэдзкі адзьдзел, пасьля працяглай асады, захапіў Мядзел. Замак падзяліў лёс многіх літоўскіх камяніцаў, што трапілі ў рукі да швэдаў: ён быў узарваны. Зямля з цягам часу праглынула нават рэшткі замку, і цяпер на месцы, дзе ўзвышаліся калісьці велічныя муры, зелянее пагорак, зарослы дрэвамі й хмызьзём... І больш нічога.

Але памяць народу, наша памяць, павінна назаўсёды зьберагчы паданьні пра Мядзелскі замак, гэтак-жа, як і згадкі пра мноства іншых літоўскіх камяніцаў, якія зьнішчыў бязьлітасны час. Бо яны - наша Гісторыя, і пакуль мы будзем ведаць яе - застанемся.

***Андрэй Скурко***

вых справаў школы пад наглядам выбраных прадстаўнікоў мясцовага люду;

в) лучнасьці паміж рознымі кшталтамі школаў з правам для кожнага, маючага адпаведныя веды, паступленьня ў кожную школу й пераходжаньня, паводле ўзроўню сваіх ведаў, ад школы аднаго ўзроўню да школы другога ўзроўню (напрыклад: школа гмінная, мейская, гімназія альбо рэальная школа, унівэрсытэт ці тая-ж політэхніка);

г) павелічэньня лічбы школаў сярэдніх і вышэйшых стасоўна да патрэбаў люду, мажліва з мясцовай мовай выкладаньня з уважаньнем веравызнаньня моладзі, якая вучыцца, і наглядам з боку супольніцтва й улады духовай, абы ў іх не былі штучна скажоны прынцыпы веры й маральнасьці, ані распальвалась таксама нянавісьць веравызнаўчая й нацыянальная;

д) адданьне ўсіх школаў ніжэйшых і сярэдніх пад кіраўніцтва мясцовых самаўрадаў;

е) закладаньне, па патрэбе, залежных ад тых-жа самаўрадаў школаў прафэсыйных ва ўсялякіх кірунках.

**2. Справы аграрная**

Партыя Канстытуцыйна-Каталіцкая - пры захаваньні падставовых правоў уласнасьці - дамагацца будзе:

а) усялякіх залацьвеньняў з мэтаю пашырэньня дробнай уласнасьці без эксплюатацыі набыўцоў і з шырокім і латвым застасаваньнем дзяржаўнае фінансавае дапамогі на найбольш карысных для набыўцы ўмовах;

Увага: Улацьвеньні тыя павінныя быць застасаваны найперш для дробных вясковых уласьнікаў, для тых, якія адначасова згаджаюцца на скасаваньне шнуровае уласнасьці* й закладаньне фальваркавае гаспадаркі, ці разкалянізаваньне.

**_*калі поле падзеленае паміж сялянамі на шнуры (пасы), зь нязручным разьмешчаньнем шнуроў, так каб кавалак аднаго гаспадара межаваў з кавалкам йіншага. З-за гэтага ўзьнікалі частыя спрэчкі за межы._**

б) разьвязаньня справаў паміж малой і буйной уласнасьцяй праз удзел разьнімаючых судоў, да якіх-бы ўвайшла роўная колькасьць вяскоўцаў [дробных уласьнікаў] і буйных уласьнікаў;

в) урэгуляваньне правоў і абавязкаў дзяржаўцаў з мэтаю стварэньня згоды паміж дзяржаўцам і ўладальнікам;

г) аховы лясоў ад зьнішчальнага гаспадараньня;

д) пры лясной эксплюатацыі, задавальненьня - забясьпечанага праз права - патрэбаў мясцовага люду, не вылучаючы, па патрэбе, спраўджанага праз мясцовае прадстаўніцтва, выкупу патрэбных для мясцовага люду лясных абшараў;

е) каб калянізацыя вяскоўцаў [дробных гаспадароў] на грунтах дзяржаўных, урадавых, удзельных [імпэратарскіх] і былых касьцёльных, і дзе паўстане таго патрэба, нават на грунтах прыватных, знайшла, скнстатаваную праз мясцовае прадстаўніцтва, пэрспэктыўную дзяржаўную дапамогу;

ё) каб правы, якія тычацца найму работнікаў ці парабкаў вясковых, йіхных жытлаў, ардынарыі [распарадаку дня], аплаты, падліку гадзінаў працы ўлетку й узімку, аплаты за працу па-за тэрмінам і абмежаваньняў вольнасьці ад працы і выплат у нядзельныя й сьвяточныя дні, былі разгледжаныя й застасаваныя да мясцовых патрэбаў;

Увага: Нагляд над належным выкананьнем гэтых правоў павінен быць выконваны выбранымі абодвома бакамі інспэктарамі.

ж) дзяржаўнага забесьпячэньня работнікаў вясковых на старасьць і нездольнасьць да працы.

**3. Справы фабрычныя й заводзкія.**

У дзядзіне справаў фабрычных і заводзкіх Партыя Канстытуцыйна-Каталіцкая будзе дамагацца:

а) свабоды пры закладаньні зьвязаў і кіраваньня вечаў [мітынгаў], аднолькавую абарону перад усялякім кгвалтам;

б) права да страйкаў з абаронаю асабістай

**ПАРТЫІ**

*працяг, пачатак на 1-4-ай ст.*

казалі, - быў і ў першай Думе, а за мужыкоў усё роўна не закінуў ні слова. Ён цягне за памешчыкаў, бо й сам памешчык. У справах духоўных яму можна верыць, але ў палітыцы - не, бо ведама, што добра для мужыка, то не надта добра для памешчыка: калі, напрыклад, зьнімуць крыху падаткаў з мужыкоў, то наложаць больш на памешчыкаў. Гэта йім не смашна, вось і будуць яны старацца, каб усё было пастарому."

Калі так сапраўды думалі "мужыкі", чаго тады было ад іх чакаць, як не падтрымкі бальшавікоў і сацыялістаў, якія потым "уладкавалі" цяжкую "мужыцкую" долю.

"...Пасьля рэвалюцыі 1917 року, - як працягвае ксёндз Адам Станкевіч - прабыўшы дзесяць рокаў выгнаньнікам, біскуп Ропп быў прызначаны сьвятым Айцом на Магілёўскага Арцыбіскупа, на якім становішчы й прыступіў да пастырскай працы з сапраўды апостальскім размахам не забываючы, як убачым ніжэй, і патрэбаў літоўскае мовы ў касьцёле.

Звольніўшыся ад царскае няволі падчас рэвалюцыі 1917 року, біскуп Ропп, яшчэ як біскуп Віленскі (бо хаця урад пазбавіў яго Віленскай біскупскай Сталіцы, але сьвяты Айцец далей лічыў яго біскупам Віленскім), - першым чынам пасьпяшыў адведаць тую частку сваёй дыецэзіі, якая знаходзілася на ўсход ад расейска-нямецкай баявой лініі.

Першая парафія, ад якой біскуп пачаў сваю пастырскую візыту, была Дзісна, куды ён прыбыў 20.07.

*працяг на 6-ай старонцы*

## ПЕРАДРУКІ

*працяг, пачатак на 3.4-ай стар.*

каштоўная для мяне кніга, бо аўтар даваў прыклады, што Ягайла ніколі добра не валодаў польскаю моваю, гаварыў "палітоўску". Аднак словы малітвы ды гіншыя прыклады сьведчылі, што паміж тагачаснай літоўскай і сучаснай беларускай мовамі розьніцы не было.

У 1950 року я апынуўся ў ЗША й працаваў у шпіталі як тэхнік-анэстэзіста, бо ангельскае мовы тады добра ня ведаў. Працаўнікі шпіталю ўсё пыталі мяне, адкуль я й якой нацыянальнасьці. Цяжка было растлумачыць ім, дзе знаходзіцца Беларусь, бо яны ня мелі ніякага ўяўленьня аб нашай зямлі. Адной раніцы, калі мы рыхтаваліся да апэрацыі, мой "бос" др. Шорц запытаўся мяне: "А якая сталіца тваёй Беларусі?" Я кажу: "Менск". Тады ён усклікнуў: "Менск, Пінск, Смаленск, ты-ж ёсьць літвак". Я зьдзівіўся й спытаўся, дакуль ён ведае, што я літвак, а не беларус. Др. Шорц адказаў: "Мой дзед вучыўся ў Чыкагскім унівэрсытэце. Там было шмат студэнтаў, якія размаўлялі між сабой папольску. Аднаго разу мой дзед пасварыўся з адным са студэнтаў і назваў яго: "Дэм палак". Той схапіў дзеда за грудзі й кажа: "Паб'ю цябе, калі яшчэ раз назавеш мяне палякам. Памятай, што я літвак". Пазьней дзед зь літваком пасябравалі, і да таго часу літвак часта расказваў дзеду Шорца пра Літву й яе гісторыю.

Я таксама пасябраваў з унукам старога Шорца. І ён ужо ведаў, дзе знаходзіцца Беларусь.

***ЯЗЭП САЖЫЧ***

*паводле часопісу "ПОЛАЦАК" №4(14)*

## ПЕСЬНІ

# МАРА ЛЁСУ

*Парабкі нішчаць выяву сьвятога -*
*Яны не пужаюцца зрады*
*Яны жадаюць улады!*

**Dm** **Dm$_7$**
Прыйшлы чужынец ня зьвернецца зь месца
**Am** **A$_7$**
І нават ня ськіве пасады,
**Dm** **Dm$_7$**
Покуль народ наш 'шчэ быдлам завецца
**Am** **A$_7$**
І паважае ўладу.

Уладу, да сьмерці, што рве нашы жылы,
Што хоча напіцца крывёй,
Але паўстае наша раць нават з пылу
І продкаў бярэ ў шлях з сабой

ПРЫСЬПЕЎ
**Gm F C Fm**
Паволі ідзе і зьбірае павол:
**Gm F C**
Вялікіх тварцоў бараньбітаў.
**Gm F C Fm**
Імёны йіх шчымяць мне сэрца да болю
**Gm Fm# Fm Dm**
За волю, да сьмерці яны былі зьбіты!

А білі йіх здраднікі, каты, масквіты.
Прадаўшы мазгі свае д'яблу.
Навечна "мянушкі" йіх ганьбай пакрыты
Й галовы схаваны ў труну.

ПРЫСЬПЕЎ
Але-ж будзе войска расьці, ўзьнімацца,
Пакуль не паўстане зусім
Увесь наш народ за свабоду змагацца -
Змагацца, каб лёс быў сваім.

Няхай застаецца вітальнай дзяржава.
Такой, як ў даўні часы.
Калі яна сваіх сыноў сустракала.
Калі 'шчэ шумелі дубовы лясы!

***ANDRUŚ K***

## ПАРТЫІ

*працяг, пачатак на 1-5-ай ст.*

1917 р. позьнім вечарам. У Дзісьне, чакаючы на біскупа, падчас набажэнства ў касьцёле, да вялізарнага натоўпу вернікаў, якія прыбылі прывітаць пастыра-мучаніка, палітоўску прамовіў ксядз М. Пятроўскі.

На другі дзень, 21.07., ведаючы пагляды біскупа, ксядзы ліцьвіны рыхтаваліся да літоўскага казаньня. Мясцовы дэкан кс. В. Ташкун ад імя гэных ксядзоў пайшоў да пастыра запытацца, ці можна сказаць казаньне ў роднай мове народу? На гэта быў адказ: "Ня толькі можна, але й трэба".

Радасьці ксядзоў-ліцьвінаў ня было канца. Дагэтуль йім ня толькі ня можна было гаварыць да сваіх парафіянаў-ліцьвінаў казаньні ў йіх роднай мове, але яны не маглі нават пачуць хоць-бы ў тэорыі прызнаньня права літоўскай мовы ў Касьцёле. Усялякія пляны й пачынаньні йіх у гэтым кірунку былі уважаны за праступак, за здраду... Касьцёла.

І вось пачалася галоўная біскупская Імша. Народу нябывалыя натоўпы. Да гэтае вялікае урачыстасьці ліцьвінаў-каталікоў масава далучаюцца беларусы-праваслаўная, якія выразна маніфэстуюць свае прыязныя настроі да біскупа-мучаніка. У Суме мае быць казаньне папольску, а па Суме - палітоўску. Ксядзы-ліцьвіны гаварыць літоўскае казаньне даручаюць Ксядзу Адаму Станкевічу.

Радасьць мая была неапісальная. Хацелася плакаць, як малому дзіцяці, якое, згубіўшы радню, доўга бадзялася па чужых рукох, зносячы ўсю паняверку чужацкіх сэрцаў, аж урэшце знайшло свайго дарагога, роднага, бацьку! Мне было цяжка сабраць свае думкі ў парадак і паддаць йіх пад законы лёгікі.

Таўпіліся яны, мітусіліся ў галаве маёй, як пчолкі ў роі сваім, а радасьць балюча цягнула маё сэрца.

Гэта вялікае маё духовае ўзрушаньне ўзмаглося 'шчэ больш у тую ўрачыстую хвіліну калі пастар ускладаў на мяне стулу, баслаўляючы на літоўскае казаньне! Ідучы на амбону праз народ, якім біткам быў набіты касьцёл, і якога было поўна за касьцёлам, праз адчыненыя вокны слухаючага набажэнства й слова Божага, я толькі памятаў тое, што бадай нічога не памятаў: я ня ведаў, аб чым я гаварыць маю, бо думкі мае цалкам вырваліся з панаваньня майго і роем мітусіліся ў галаве маёй.

вольнасьці, і з абавязковым разьвязваючым разгляданьнем нагоды страйку праз суды выбраныя супольна работнікамі й працадаўцамі;

в) інспэкцыі адносінаў рабочых асобамі выбранымі абодвома бакамі, у роўнай колькасьці работнікаў і працадаўцаў;

г) наколькі дазваляе мажлівасьць, увядзеньня 8-мі гадзіннае працы й абмежаваньня працы ўночы;

д) абароны працуючых жанчынаў ад эксплюатацыі, празьмернае працы, усялякай немаральнасьці;

е) абароны працуючых на працах небязьпечных і на здароўе шкодных;

ё) апякунства над працай падлеткаў і забароны працы дзецям да 14 рокаў;

ж) забезьпячэньня за кошт працадаўцы работнікаў, якія сталіся хворымі ці калекамі ў выніку працы шкоднай на здароўе;

з) дзяржаўнага забезьпячэньня работнікаў усіх прадпрыемстваў на старасьць і няздольнасьць да працы;

і) караючае адказнасьці за невыкананьне, альбо тэндэцыйнае тлумачэньне правадаўства, якое тычыцца абароны работнікаў;

к) дзяржаўнае дапамогі праўнае і грашовае на аднаўленьне былых і стварэньня ўсялякіх новых рамесьленых заводзкіх зьвязаў (пры закладаньні школаў, прытулкаў, дамоў удоваў і сіротаў і так надалей).

**4. Касьцёльныя стасункі.**

У справе кіраваньня й стасункаў касьцёльных Партыя Канстытуцыйна-Каталіцкая будзе дамагацца:

а) выпраўленьня ўсялякіх крыўдаў, учыненых касьцёлу ў нашым краю, а таксама аднаўленьня скасаваных дыецэзыяў, звароту забрадзеных ці замкнутых касьцёлаў, - а дзе тое здасца немажэбным поўнай адплаты за ўчыненыя крыўды;

б) звароту забрадзеных надзелаў касьцёлаў скасаваных па заключэньні канкардату*, альбо адплаты за яе. Аднаўленьня свабоднага карыстаньня капіталамі, належачых біскупскай уладзе, якія нібыта знаходзяцца у адміністрацыі Калегіюма;

в) ліквідаваньня гэнага Калегіюма;

г) вольнае адукацыі ксядзоў, дастатковай колькасьці клерыкаў у сэмінарыях, незалежнасьці біскупскай улады пры прызначэньні ксядзоў на пасады;

д) вызваленьня люднасьці каталіцкай ад падаткаў, якія ідуць на справы праваслаўнага духавенства;

е) матар'яльнага забезьпячэньня духавенства незалежна ад несталых касьцёльных даходаў;

ё) вольнага стасунку са Сьвятой Сталіцай, адбору біскупаў паводле касьцёльнага права, арганізацыі кансысторыі бязь сьвецкага кіраваньня згодна правоў касьцёльных;

ж) вольнага пасяленьня ўсялякіх рэлігійных зграмаджэньняў, манастваў, брацтваў і т. н. д. на прынцыпох агульных правілаў аб зьвязах;

з) вольнага навучаньня сьвятое рэлігіі, абсалютнае і праўдзівае свабоды веравызнаньняў, свабоды укладаў [абрадаў] перадшлюбных ды йіхнае правамоцнасьці:

і) свабоды біскупскай улады пры закладаньні парафіяў, пры будаваньні касьцёлаў парафіяльных, філіявых і капліцаў, пры ськлíканьні сынодаў дыецэзальных і правінцыйных разам са зраўненьнем календароў;

к) правамоцнасьці дэкрэтаў духоўных судоў у справах сужэнскіх [малжэнскіх], сужэнскае немаральнасьці й праступстваў капланаў супроць абавязкаў йіхнага стану й агульнай маральнасьці ды звычаістасьці.

**5. Справы агульна-дзяржаўныя.**

Партыя Канстытуцыйна-Каталіцкая з мэтаю замацаваньня й забезьпячэньня ўсіх спамянёных сваіх пастулятаў у сувязі з прызнанай праз Маніфэст 17 кастрычніка, роўнасьці перад правам усіх абываталяў.

**дамова паміж Ватыканам і асобнай дзяржавай аб парадку, сутнасьці й стасункаў мясцовага прадстаўніцтва касьцёлу і дадзенае дзяржавы*

*пераатлумачыў Т.К.*

*працяг дадзенага артыкулу, а таксама праграмы Партыі Канстытуцыйна-Каталіцкай ў наступным нумары.*

***ПАДРЫХТАВАЎ Т. К.***

## ПАТЛУМАЧАНЬНІ

*працяг, пачатак на 7-ай старонцы*

Там можна ўдосталь
пасьпяваць гуртом вясёлым,
Прамовіць думкі ўголас, будзем жартам рады,
А ў горадзе падумаюць - ужо Каляды
Сьвяткуюць у касьцёле... Браткі,
Для запалу бутэлек колькі маю!

**Якуб**

Без ведама капрала?

**Фрэенд**

Капрал пачціві яшчэ фору дасьць, павер,
Пры тым паляк ён і былы легіянэр.
Цар кгвалтам маскалём яго перарабіў,
А ён дарогу да касьцёла не забыў,
За сьвяты вечар нам дазволіць выпіць крыху.

**Якуб**

Калі даведаюцца, не мінуем ліха.
*(Уваходзяць у камору Конрада, разводзяць агонь, у каміне запальваюць сьвечку. Камора Конрада, як у пралогу.)*

**Кс. Львовіч**

Адкуль ты тут, Жэгота, мілы і каханы?
Калі?..

**Жэгота**

Забралі сёньня ўдзень з уласнай стайні.

**Кс. Львовіч**

Ты стаў гаспадаром?

**Жэгота**

Прызнаюся бяз зману
Пра маіх коняў ходзяць па зямлі паданьні.
Раней ня ведаў я дзе сена, дзе салома,
Цяпер найлепшага ў Літве я маю эканома.

**Якуб**

Цябе ўзялі зьнянацку?

**Жэгота**

Я слыхаў не раз:
У Вільні следства,- мой фальварак ля дарогі.
Кібіткі шквалам пралятaлі міма нас,
Штоноч, званок паштовы дадаваў трывогі.
Бывала вечарам сядзім мы за сталом,
І хтосьці лыжку ў шклянку незнарок абронiць
Кабеты нашыя бялеюць, нібы ў дом
Фельд'егер царскі зь пільным
даручэньнем звоніць
Але ў змовах тайных я ня браў удзелу
І думаю ва ўлад звычайнае памкненьне:
Нас абылгаць... І разам з тым свае кішэні
Напоўніць нашымі грашыма захацелі.
Заплоцім дык адпусцяць.

**Томаш**

Маеш спадзяваньне?

**Жэгота**

Няўжо ў Сыбір бязьвінных могуць
выслаць нас?
У чым віна? Што, падрыхтоўка да паўстаньня?
Чаму маўчыце? - растлумачыць самы час!
Якія знойдзены падставы нашай справы?

**Томаш**

Падставы - Навасільцаў прысьпяшыў
з Варшавы,
Што за характар, знаеш, мае пан сэнатар.
Яго сваёй пазбавіў ласкі імпэратар,
За тое, што ён п'янстваваў і краў адкрыта,
Ўшчэнт раззлаваў купцоў і страціў іх крэдыты.
Каб апраўдаць сябе ён вырашыў пабегаць,
Аднак у Польсцы змоўшчыкаў
ня змог разьведаць
Дык выправіўся ў новы край - Літву наведаць
Сюды-ж і перанёс свой штаб галоўны шпегаў.
Каб выслужыць сабе ізноў давер царовы
Ён мусіць край бязьвіннаю крывёй заліць
І з таварыстваў зьвіць далёкія высновы,
Ланцуг ахвяраў самадзержцу прысьвяціць.

**Жэгота**

Мы ўсё абвержым!

**Томаш**

Бараніцца тут дарэмна,
Бо следства, і, уласна, суд, ідуць таемна.
Хто аскарджае нас, той нам судзьдзёю будзе,
Што загадзя прызначыў, тое і прысудзіць,
Ён слухаць нас не стане - мы не ўнікнем кары.
Для паратунку застаецца шлях адзіны:
З нас некаторыя павінны стаць ахвярай,
Узяць адчайна на сябе усіх правіны.
Я старшынёю нашага лічыўся брацтва
І абавязаны цярпець за вас, маё спадарства.
Яшчэ мы колькіх абярэм, такіх як я,
Па кім не плачуць дзеці, жонка і сям'я -
Іх гібель сэрцаў многіх не кране і зможа
Адважных і патрэбных вырваць з рук варожых.

**Жэгота**

Далёка так зайшло?

**Якуб**

Адчуў журбу і шкоду?-
Так, можна з домам разьвітацца назаўсёды.

**Фрэенд**

Вунь Яцэкава жонка мае стан цікавы,
А ён не плача.

**Фэлікс Кулакоўскі**

Што тут плакаць, Божа правы!
Магу іх сыну будучыню прадказаць.
Далонь дай Яцэк, ну! Я трошкі хірамант,
Пагледзем, які лёс заслужыць твой інфант.
*(сочыць па руцэ)*
Калі ён шчырым будзе, пад маскоўскім катам
Спаткае суд, кібіткі, і турму, і краты
І можа быць, тут з намі будзе векаваць.
Люблю сыноў, як нашых будучых калег.

**Жэгота**

Даўно вы тут?

**Фрэенд**

Дый што сказаць, лістоў няма,
Каляндара няма, дзён не прасочыш бег.
І жах - не знаць, як доўга будуць нас трымаць.

**Сузін**

А калі дошкі на вакне замест фіранак -
Як зразумееш: вечар за сьцяной ці ранак?

**Фрэенд**

У Томаша спытай, ён патрыярх вязьніцы,
Нібы шчупак вялікі трапіў першы ў сетку.
Апошні выйдзе, хоць усіх прыводу сьведка,
Ён ведае, за што мы кінуты таміцца.

**Сузін**

Так гэта Томаш! Вас і не пазнаць адразу!
Руку падайце: праўда знаць мяне мала -
Было не скрасьці ўвагі вашай і адказу, -
Бо кола шчыльнае сяброў вас атачала.
За нас пакутвалі і нас-жа ратавалі,
Адзін ўступілі ў бой з варожымі палкамі.
З хвілін тых ганаруся, што знаёмы з вамі.
Ў час сьмерці ўзгадаю: з Томашам мы гаравалі.

**Фрэенд**

О, сьлёзы! Далібог. - мярзотная вадзіца.
У Томаша на волі, у дзянькі ліхія
Ужо сьвяціўся надпіс на чале - "вязьніца".
У гэтых сутарэньнях - тут яго стыхія.
Ён, быццам грыб, на сонцы проста жыць
не ў стане.
Хаваецца ад сьвету у вільготным лёху,
Дзе мы, сланечнікі, чаўрэем, хутка вянем.
А ён тлусьцее нават і расьце па-троху.
Дык вось паддаўся Томаш модным выкрутасам
Пачаў лячыцца голадам апошнім часам.

**Жэгота**

*(да Томаша)*
Вас морацъ голадам?

**Фрэенд**

Дый не, хапае ежы -
Па праўдзе - выгляд у яе занадта сьвежы.
Ёй даць падсохнуць і расьцерці ў парашкі -
Атруціліся-б мышы ўсе і пацукі.

**Жэгота**

Як тое можна есьці?

**Томаш**

Тыдзень я пасьціўся,
Пасьля пакаштаваў і ў той-жа міг зваліўся.
Скруціла, як халерою, ад калацьця,
І месяц праляжаў у хмарах забыцьця.
Не ведаю, якою мучыўся хваробай -
Бо лекар не цікавіўся маёй асобай.
Нарэшце ачуняў, зноў праглынуць згадзіўся,
Цяпер здаецца: для той стравы нарадзіўся.

**Фрэенд**

*(з найгранай весялосьцю)*
Сябры, скажу, не быў хто вязьнем -
страціў многа,
Сакрэтам кухні й камфорту не пранікся.
Прыемна альбо кепска - звычка й нічога.
Пытаўся раз ліцьвін у пінчука ці д'ябла:
"Чаму сядзіш ў балоце?" -
"Га? Сяджу, бо звыкся"

**Якуб**

Прывыкнеш тут...

**Фрэенд**

Бяз навыку ня зьбіць і яблык!

**Якуб**

Я тут напэўна восьмы месяц і павер мне
Туга не адступае.

**Фрэенд**

Дык не выйшаў тэрмін.
Вось Томаш так ужыўся ў гэтыя скляпеньні.
Што на паветры сьвежым адчувае ап'яненьне.
Ўдыхнуць не можа па-за сьценамі каморы.
А раптам вызваляць - ён зробіцца багаты.
Не будзе мець зь віна зусім ніякіх стратаў:
Глыне паветра і... усё, ужо ў гуморы.

**Томаш**

Не, лепей галадаць, хварэць, быць пад зямлёю.
Цярпець зьнявагу, зьдзекі, самадураў, сьледзтва,
Чым зносіць у замкненьні вашае суседзтва.
Нас кінулі-б яны ў труну адной гурмою.

**Фрэенд**

Па кім ты плачаш? Хочаш нас пашкадаваць?
Ці не мяне? А дзе карысць майго жыцьця?
Яшчэ ў вайне - я маю талент да біцьця,
І мог-бы казакам хрыбты нашпігаваць.
А хто я ў мірны час? Рокаў 'мо сто асілк.
Каб клясьці маскалёў, а там пара ў магілу.
На волі поўны век я быў бы драбязою.
Як порах ці віно сярэдняга гатунку.
Аднак віно за коркам, порах пад плітою.
І кошт мой роўны тут бутэльцы ці ладунку.
Адсюль бы выветрыўся, - з конаўкі, віном
На волі ўспыхнуў-бы, як порах над агнём.
Калі-ж у ланцугох мяне ў Сыбір пагоняць.
Браты-ліцьвіны ўбачаць і ў званы зазвоняць:
Так кроў шляхецкая, так моладзь наша гіне.
Чакай забойца цар, чакай масквіне!
На шыбеніцу, Томаш, за цябе пайду,
Каб ты на сьвеце жыў даўжэй, хаця-б хвіліну.
Магу я толькі сьмерцяй падтрымаць Айчыну.
Аддаў-бы дзесяць сваіх жыцьцяў за адну
Тваю... ці Конрада - панурага паэта.
Які, што той цыган, вяшчае тайны сьвету.
*(да Конрада)*
Казаў мне Томаш, быццам дар твой неахопны.
І я люблю цябе, ты да віна падобны -
Нам разьліваеш песьню, жарсьцю запаляеш -
Мы п'ем, п'янеем, але сам ты засыхаеш.
*(бярэ Конрада за рукі, выцірае сьлёзы)*

*далей будзе*

АДКАЗНЫЯ ЗА ДАКЛАДНАСЬЦЬ ФАКТАЎ ПАДАДЗЕНЫХ У АРТЫКАЛАХ ЁСЬЦЬ АЎТАРЫ ПУБЛІКАЦЫЯЎ

Reč Paspalitaja Lithvaniae
220113 Miensk-Litowski p/s 448
Uladzimier Piatrovič

РЭДАКЦЫЯ МАЕ ПРАВА НА СТЫЛЁВАЕ Й ГРАМАТЫЧНАЕ РЭДАГАВАНЬНЕ АЎТАРСКІХ МАТАР'ЯЛАЎ

СПАСЫЛКА НА "ЛІТВУ" АБАВЯЗКОВАЯ.